


ВЫХОДЗІЦЬ З ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

# Беларуская МАЛАДЗЕЖНАЯ

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета

№ 26

А. ТРУСАЎ, народны дэпутат, лідэр Грамады:

## "Наша сіла ў яднанні!"

( стар. 3 )

*"Беларуская маладзёжная" віншуе адданых сваіх чытачоў з Калядамі, Новым Годам!*
*Святкуйце, калядуйце, у мяхі збірайце -- нас не забывайце!*
*Сустрэнемся ў 1995-м!*



В. МАЛАШКА, народны дэпутат:

## Анабасіс, або Маленькія хітрасці вялікай палітыкі

( стар. 3 )

● **Черные пятна красной истории**

В. СУВОРОВ, эмигрант (Великобритания)

## Со скрипом...

( стр. 5 )

А. ЛЕСІК:

## Прэзідэнт у нас "харошы". Жыццё дрэннае

( стар. 2 )

## Жыццё ў стылі "БМ"

( стар. 8 )

## ПраРОК

( стар. 7 )



# Народ-гаротнік калядуе, а Прэзідэнт -- і ў вус не дуе!

● Алё, шукаем прэзідэнта!

# Прэзідэнт у нас "харошы". Жыццё дрэннае

**Прэзідэнт у дзяржаве -- асоба паважаная і, згодна свайму статусу, амаль недатыкальная. Што ж да Беларусі, імя прэзідэнта ўспамінаюць увесь час і паўсюдна, абвінавачваючы Лукашэнку ледзь не ў кожнай дробязі жыцця. Гэтая асаблівасць мае тэндэнцыю да росту ў дні чарговага павышэння цэнаў на розныя тавары, якое выклікаецца звычайна "павышэннем затратаў на вытворчасць ..." і г.д. і да т.п. Успамінаюць усе: і тыя, хто выбіраў яго ў прэзідэнты, і астатнія, хто вымушаны мірыцца з выбарам першых. Пасля выбараў прайшло больш чатырох месяцаў. Наколькі беларусы задаволеныя ці расчараваныя сваім, магчыма, недальнабачным рашэннем? Адказ на гэтае пытанне я спрабаваў знайсці, калі выйшаў на вуліцу і пагаманіў з мінчанамі. Адразу падзялюся праблемай, з якой сутыкнуўся. Не, народ наш камунікабельны і адказваў ахвотна. Цяжэй было знайсці сярод мінчан... тых асобаў, што галасавалі за сёняшняга прэзідэнта. Куды яны зніклі? Магчыма, працей было б пашукаць у правінцы? Але наўрад ці меркаванні адрозніваліся б ад "сталічных".**

**Святлана, на выгляд гадоў 25.** Сказала, што яе жыццё амаль не змянілася з часу з'яўлення ў нас прэзідэнта. Галасавала за Лукашэнку. Верыць яму і зараз. (Наіўная! -- А.Л.)

**Два хлапцы студэнцкага ўзросту, завочнікі МРТІ.**

-- Галасавалі за Кебіча. Чаму? Знаёмы чорт лепей незнаёмага.

-- А вы асабіста адчулі прысутнасць прэзідэнта ў нашай дзяржаве?

-- Адчуў, на сваёй студэнцкай скуры, але лічу, што гэта не прэзідэнт, а, хутчэй, пародыя на прэзідэнта.

**Алег Аляксандравіч, сярэдніх гадоў, працуе на заводзе імя Леніна.**

-- Я за Лукашэнку не галасаваў, галасаваў за Пазьняка, і, аглядаючыся на чатыры месяцы яго прэзідэнцтва, лічу, што прэзідэнт з камуністычнай арыентацыяй нічога не зробіць. Трэба мяняць сістэму, каб не было ля ўлады людзей, што працуюць па сістэме "Каб жыць у радасці і шчасці, трэба красці, красці, красці". Да лепшага пераменаў няма. У мяне на заводзе манташніцы атрымліваюць па 50 тысяч у месяц, а кілаграм каўбасы каштуе 42 тысячы. Я -- наладчык на канвееры, мой заробак "чыстымі" 110 тысяч. Хіба столькі павінен атрымліваць кармілец сям'і?

**Ніна Іосіфаўна, эканаміст.**

-- Калі шчыра, то не заўважыла з'яўлення ў нас Прэзідэнта. На жыцці ж сям'і гэта адбілася вельмі адмоўна. Канца фінансаваму крызісу не відаць.

**Жанчына гадоў трыццаці, не назвала сябе, былы інжынер дыягнастычнага цэнтра, зараз беспрацоўная.**

-- Зараз мы жывем на адну зарплату мужа. Да гэтага месяца яна была 67 тысяч. Дзяцей у нас двое. І з кожным месяцам мы усё больш беднеем.



**Валянціна, кабета гадоў трыццаці, добра апранутая.**

-- Я жыву не ў Беларусі. У нас ёсць свой прэзідэнт, Кучма.

-- А пра нашага прэзідэнта што вы ведаеце?

-- Ведаю мала, ураженне нармальнае, але да ўчарашняга дня. Чаму да ўчарашняга? Ды зноў цэны паднялі.

**Дзве жанчыны, якія падаліся мне вялікімі аптымісткамі.**

-- Летам ехалі з дачы -- беглі, каб прагаласаваць за Лукашэнку. Калі б ведалі, што так атрымаецца, лепей бы папрацавалі там. Што да апошняга павышэння цэн, то крыху расчараваныя ў Лукашэнку. Але лічым, што яму таксама патрэбны час, каб навесці парадак.

-- А колькі часу ў якасці выпрабавальнага тэрміну вы дасце свайму выбранніку?

-- Трэба год даць, а потым глядзець будзем. ("А што ж вы рабілі для гэтага часу? Ці не бачна?" -- так і падмывала сказаць. Але жанчыны пераменілі кірунак размовы, адзначыўшы, што прэзідэнт у нас "харошы", а дрэнныя якасці яму прыпісаны сродкамі масавай інфармацыі).

**Валянціна Уладзіміраўна, пенсіянерка, выходзіла з прадуктовай крамы.**

-- Гэта проста бязмежжа, не ведаеш колькі грошай узяць з сабой у краму, ды іх і няма ў нас. Я -- пенсіянерка, я не магу купіць тое, што мне патрэбна, а толькі тое, на што хапае грошай. Прэзідэнт, а такое дазваляе. Яго праклянуць хутка.

-- А вы самі за каго галасавалі?

-- За яго галасавала, таму што праграму ён паказваў вельмі добрую, якая падтрымае нас, пенсіянераў. А на справе -- не паспееш міргнуць вокам -- зноў новыя цэны. Я раскайваюся у сваім выбары. Калі б ведала, што так будзе, лепей галасавала б за Пазьняка. Калі хочуць да ўлады --абяцаюць залатыя горы, а зараз, паглядзіце самі -- жабрацкі народ. Атрымала 70 тысяч пенсіі -- што мне з ёй рабіць. ...ны ён, ці што? Упраўду, матам хочацца выказацца.

**Ганна Рыгораўна і Лідзія Уладзіміраўна, сярэдняга ўзросту.**

-- З'яўленне прэзідэнта не адбілася на нашых сем'ях. Мы працуем у гандлі. Зарабляем каля 150 тысяч. Цяжка. Але прэзідэнт у гэтым вэрхале не вінаваты, вінавата сістэма... Галасавала за Лукашэнку, але ў другім туры. У першым галасавала за Шушкевіча. Думаю, каб прэзідэнтам быў ён, жылося б лепей.

**Падцягнуты, з выпраўкай чалавек, як аказалася пазней -- былы вайсковец.**

-- Калі меркаваць па тых абяцаннях, якія ён даваў перад выбарамі, і за што я галасаваў, жыць мне стала горш. Што я чакаў? Хаця б адказу на пытанне, у якой рэспубліцы мы жывем, і куды мы рухаемся.

**Звычайная жанчына, якая вярталася дадому з працы.**

-- А вы інтэрв'ю запісваеце? І маё імя патрэбна?

Калі даведалася, што называць імя не абавязкова, адказала шчыра:

-- Дрэнна жыву. Працую на прадпрыемстве кантралёрам, атрымала 110 тысяч без вылікаў. Я галасавала за Лукашэнку, але лічу, што памылілася.

-- А калі вы гэта зразумелі?

-- Цяпер, з ростам цэнаў, цяжкімі ўмовамі працы. Ён абяцаў нам, што наладзіць работу прадпрыемстваў. Зараз наадварот, падаем у бездань.

**Віктар Аляксеевіч, пенсіянер, раней працаваў у інстытуце.**

-- Я галасаваў за Кебіча. Што да Лукашэнкі, то да апошняга вандалізму ў гандлі я яму усё прабачаў, як маладому, нявопытнаму. Але пасля таго, як ён пашумеў па радыё і тэлебачанню, загадаў вярнуць цэны, а, як потым аказалася, ён ведаў, што цэны адпушчаныя -- атрымліваецца, што ён хлусіў нам, свайму народу.

**Наступны мой суразмоўца працуе ў Акадэміі Навук**, той самай установе, якую нядаўна не абдзяліў сваёй увагай Аляксандр Рыгоравіч. Заробак, кажа, вельмі нізкі, а 9 месяцаў наогул без грошай былі. Калі б ведаў, што так будзе ўжо праз 100 дзён /а чаго чакаць праз 6 ці 9 месяцаў "выпраўленчага тэрміну", якія прэзідэнт прасіў сабе?/, безумоўна, за яго не галасаваў бы.

***Канешне, маё апытанне не прэтэндуе на выключнасць. Магчыма, я натрапіў падчас яго толькі на людзей, што незадаволеныя сёняшнім жыццём, і якія вінавацяць ва ўсім кіраўніка нашай дзяржавы. Магчыма, у дзяржаўных сацыялагічных мужоў атрымалася б іншая выбарка з іншымі вынікамі. І было б у ёй больш задаволеных, а калі не задаволеных, то тых, хто дае крэдыт даверу свайму абранніку. У мяне ж такога не атрымалася. Можа таму, што мае суразмоўцы імкнуліся быць максімальна шчырымі ў сваіх адказах.***

*А.ЛЕСІК, спецыяльна для "БМ"*

# Віцэбск -- вайсковы стратэгічны ключ да беларуска-расейскіх дачыненьняў

Віцебск -- усходні горад Беларусі, й задачы адраджэньня тут беларускае нацыянальнае ідэі дзюжа цяжкія.

Віцебск -- вайсковы стратэгічны ключ да беларуска-расейскіх дачыненьняў. Для Расеі цераз Віцебск і Воршу ёсьць выхад на Беларусь і далей на захад і поўдзень. Віцебская паветрана-дэсантная дывізыя і абласное КДБ ахоўваюць гэты ключ. Сёньня ён належыць постсаюзным уладам Беларусі й Расеі пры перавазе апошняе. Верх у гэтых дачыненьнях бярэ звычайны недэмакратычны намэнклятурны падыход. Фактычна працягваецца непасрэдны маскоўскі дыктат на палітыку ў Беларусі, які забясьпечваецца тут дзейнасьцю расейскіх спэцслужбаў. Нездарма прарасейска настроены Прэзыдэнт Лукашэнка пачаў свае прызначэньні зь Віцебскае вобласьці. Ясна, што Віцебскі рэгіён найбольш моцна ўтрымліваецца пад кантролем небеларускіх сілаў.

Гэта ўсё ёсьць небясьпекай для разьвіцьця сацыяльна-палітычнае сытуацыі на Віцебшчыне, разьвіцьця нацыянальнае самасьвядомасьці віцебцаў. Сваю няздольнасьць прагназаваць і кіраваць гэтай сытуацыяй неадназрозна паказвалі сёньняшнія ўлады. Іхнія дзеяньні можна характарызаваць як акупацыйныя. Мясцовыя зьвароты да іх БНФ "Адраджэньне" ў пераважнай большасьці ігнаруюцца па сутнасьці, а франтаўскія мерапрыемствы, як правіла, груба забараняюцца. Затое ўлады спрыяюць дзейнасьці арганізацыяў кшталту славянскіх сабораў, казакоў, камуністаў, мясцовае імпэрскае жырыноўшчыны. Гэта ня дзіва для таго дэпутацкага корпусу, які абраны пад кантролем сыстэмы КПБ-КПСС. Пры гэтым іх не сароміць бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня, пад якімі яны існуюць цяпер.

Дзейнасьць мясцовых органаў дзяржаўнага правапарадку падпарадкавана палітычным схільнасьцям улады, але не Закону. Міліцыя перасьледуе ўсе праявы беларускага характару, у тым ліку й на побытавым узроўні, аб чым сьведчаць перапоўненыя каморы вязьніцаў. Народныя суды падпарадкаваны старой сыстэме. Пракуратуры толькі зьбольшага пачынаюць рэагаваць на парушэньні беларускіх законаў. Увогуле пануе постсаюзны савецкі мэханізм правапарадку, які хутчэй можна назваць дзікім супрацьграмадзкім хаосам, якім староннамэнклятурная мафія бароніцца ад простых людзей.

У гэтых умовах будучыня Віцебшчыны можа быць стабільнай і квітнеючай толькі цераз умацаваньне беларускага статусу рэгіёну. У эўрапейскай Беларусі Віцебскі рэгіён павінен адыгрываць ролю памежнае крэпасьці й цэнтру беларуска-расейскага гандлю.

Перад беларусізацыяй Віцебску цяжкі абшар працы. Але ніхто за беларусаў для іх саміх гэта ня зробіць. Трэба бачыць будучыню й да яе ісьці. Тады мы адолеем цяжкасьці й зажывем нармальна на сваёй зямлі. У нас усё для гэтага ёсьць!

*Ю.КАРПАЎ, Віцебск, для "БМ"*

## ЗАЯВА
### Выканаўчага камітэта Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады

Выканкам Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады пратэстуе з прычыны звальнення з працы рэдактара Магілёўскага тэлебачання, сябра Цэнтральнай Рады, старшыні філіі партыі Алеся Сердзюкова. Гэта тыповы прыклад славутай рэарганізацыі нацыянальнага радыё і тэлебачання, якую распачаў яшчэ В.Кебіч, у выніку чаго працы пазбаўляюца перш за ўсе іншадумцы, сябры і прыхільнікі дэмакратычных партый і рухаў.

У дадзеным выпадку звальненне з працы сябра Цэнтральнай Рады нашай партыі -- факт яўнага парушэння Канстытуцыі і Закона "Аб партыях", які выразіўся ў пастаноўцы перад ім выбару: альбо старшынства ў абласной філіі, альбо праца. Такая пазіцыя кіраўніцтва тэлерадаёкампаніі -- не што іншае, як вяртанне да старых часоў кішэннай і падкантрольнай уладам прэсы.

Не зважаючы на свае передвыбарчыя абяцанні, цяперашняя каманда прэзідэнта спрабуе паставіць прэсу пад абцас, дзеля чаго выкарыстоўвае ўсе сродкі -- ад звальнення з працы да фінансавага ўціску на сродкі масавай інфармацыі. У асляпленні ўладай людзі з каманды прэзідэнта запамяталі, што дзяржаўная прэса. радыё і тэлебачанне існуюць на сродкі падаткаплацельшчыкаў і павінны выражаць волю ўсяго народа.

Выканкам Грамады заклікае грамадзян Беларусі сказаць рашучае "не" фактам цкавання дэмакратычна настроеных журналістаў і ціску на дзяржаўную прэсу. Выканкам БСДГ звяртаецца да кіраўніка тэлерадыёкампаніі сп. Кісяля з патрабаваннем пакласці канец такой рэарганізацыі, у выніку якой з штатаў знікаюць супрацоўнікі цэлых аддзелаў, а крытэрыем працы журналіста становіцца адданасць і паслухмянасць свайму кіраўніку.

Выканкам ЦР БСДГ лічыць неабходным інфармаваць партыі, якія ўваходзяць у Сацінтэрн, аб парушэнні правоў асобы ў Беларусі.

## ЗАЯВА
### Выканаўчага Камітэта Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады

Выканаўчы Камітэт ЦР БСДГ падтрымлівае заяву беларускіх журналістаў у абарону Аляксандра Люшкевіча -- уласнага карэспандэнта агенства Белінфарм.

Мы лічым, што дзеянні, учыненыя праваахоўнымі органамі ў адносінах да А.Люшкевіча, ёсць непрыхаваны наступ на правы асобы і свабоду слова, і могуць прывесці да ўскладнення міжнародных стасункаў.

Патрабуем на чарговай сессіі Вярхоўнага Савета прыняць у другім чытанні Закон "Аб друку" і Закон "Аб КДБ", тым самым стварыўшы прававую аснову дзейнасці як журналістаў, так і супрацоўнікаў вышаназванай установы.

*Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат, старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ:*

# Наша сіла ў яднанні!

Скончылася доўгая парламенцкая восень. Нарэшце Вярхоўны Савет прыняў новую версію Закона аб выбарах, і неўзабаве будзе абвешчана дата іх правядзення. Наўрад ці выбары адбудуцца раней за першую палову красавіка. Новая рэдакцыя старога выбарчага закона паставіла крыж на змешанай выбарчай стстэме і звяла да мінімума ролю ў іх шматлікіх беларускіх партый, колькасць якіх дасягае ўжо 30.

Пад самы канец абмеркавання вышэйзгаданага Закона з падачы мясцовай раённай наменклатуры, камуністаў і сацыялістаў з трэцяга разу ў Закон аб выбарах была ўнесена папраўка, у адпаведнасці з якой партыя на сваім з"ездзе можа вылучыць у выбарчую акругу аднаго кандыдыта толькі тады, калі на яе тэрыторыі дзейнічае зарэгістраваная першасная структура гэтай партыі.

Такім чынам у выбарчыя спіскі ў Мінску і абласных гарадах трапяць практычна ўсе кіраўнікі беларускіх партый, а вось у сельскіх акругах будуць дзейнічаць у асноўным камуністы ды агарная партыя Шарэцкага. І пакуль дэмакраты ў сталіцы будуць адбіраць адзін у другога галасы выбаршчыкаў, былая і сённяшняя камуністычная наменклатура, падмацаваная "прэзідэнцкай" вертыкаллю, рушыць у новы Вярхоўны Савет праз вясковыя акругі, каб зноў скласці большасць у парламенце беларускай дзяржавы і замацаваць тыя прывілеі, якія яна ўжо захапіла. Зноў будуць аддавацца "вясковым" дэпутатам шыкоўныя кватэры ў Мінску ў той час, як дзяржаўнае будаўніцтва ў нашай сталіцы практычна спыняецца, а вакол горада вырастуць катэджы новых членаў Прэзідыума.

Для таго, каб гэтага не здарылася і каб у парламент прыйшлі людзі, для якіх галоўнае не ўласны дабрабыт, а інтарэсы нашай занядбанай Бацькаўшчыны, дэмакратычныя сілы Беларусі павінны выступіць з"яднана і мэтанакіравана.

Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада выступае за стварэнне шырокага блока дэмакратычных сілаў на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Галоўнымі прынцыпамі яго павінны быць: набыццё, сапраўднага суверэнітэту, першнаперш у галіне знешняй палітыкі і эканомікі, выхад з дамовы аб калектыўнай бяспецы і пошук альтэрнатыўных крыніц энерганосьбітаў на рынках Еўропы і Азіі; увод сапраўднай беларускай валюты і спыненне інфляцыі; радыкальная зямельная рэформа, у выніку якой кожны грамадзянін Беларусі павінен атрымаць у прыватную ўласнасць не меней чым 15 сотак зямлі; стварэнне сярэдняга класу на Беларусі шляхам рынычных рэформаў і падвышэнне сярэдняга месячнага заробку да 100 -- 150 долараў у пераліку на нацыянальную валюту на працягу 2-3 год; адбудова беларускай культуры, адраджэнне дзяржаўнай мовы, вяртанне вернікам усіх канфесій іх страчанай маёмасці; поўная свабода ўсіх сродкаў масавай інфармацыі пры іх аднолькавай дзяржаўнай падтрымцы; выбарнасць мясцовых кіраўнікой толькі непасрэдна народам; скасаванне абласных структур кіравання.

У выніку папярэдніх перамоў, якія вядуцца з кастрычніка паміж дэмакратычнымі партыямі і рухамі, увайсці ў шчыльны прадвыбарчы блок, калі ў кожнай акрузе будзе вылучаны адразу толькі адзін агульны кандыдат, ужо пагадзіліся БНФ, Грамада, НДПБ і ХДЗ.

Пасля снежаньскіх з"ездаў і канферэнцый сваё апошняе слова скажуць АДПБ, БСП і ПНЗ. Мы спадзяемся, што ўбаку ад дэмакратычнага блока не застануцца такія вядомыя палітыкі як Станіслаў Шушкевіч і Станіслаў Багданкевіч, а таксама ТБМ і БЗВ.

Галоўная мэта ў прадвыбарчай працы Грамады -- гэта рэгістрацыя і стварэнне першасных суполак БСДГ у тых раёнах і гарадах Беларусі, дзе іх яшчэ няма.

Паважаныя Суайчыннікі! Выбары ў Вярхоўны Савет, ад якіх будзе залежыць Ваш лёс і лёс Вашых дзяцей на працягу пяці год, ужо набліжаюцца. Паспяшайцеся зрабіць свой выбар, уступайце ў дэмакратычныя партыі і рухі. Толькі разам можна перамагчы на выбарах, толькі разам можна ў XXI ст. стаць спраўднай еўрапейскай дзяржавай.

*Віталь МАЛАШКА, народны дэпутат, сябар Выканкама Цэнтральнай Рады БСДГ:*

# Анабасіс, або Маленькія хітрасці вялікай палітыкі

АПІСВАЮЧЫ падарожжа ўдалага ваякі Швэйка ў Чэске Будзёвіце, Яраслаў Гашак назваў гэты славуты паход анабасісам. Будзёвіцкі анабасіс вызначаўся тым, што Швэйк пераконваў сабе і ўсіх у тым, што накіроўваецца на поўдзень, а сам адважна крочыў у процілеглым кірунку.

Палітычны дрэйф прэзідэнта апошнім часам стаў нагадваць гэты геройскі паход.

Анабасіс прэзідэнта пачынаўся ім яшчэ ў статусе дэпутата. З яшчэ не адарваным рукавом, яшчэ не абстраляны паплечнікамі, Аляксандр Рыгоравіч катэгарычна адмаўляў у сваіх выступленнях прыватызацыю наогул, прыватную ўласнасць на зямлю ў любой яе форме, а па народнае шчасце прапанаваў паўзці ў Расію на каленях. Не менш яркаю была і ягоная перадвыбарная кампанія. Але пасмейвацца з нагоды запуску заводаў з 1 студзеня або надзялення бабулек тэлевізарамі і халадзільнікамі ў лік індэксацыі ўкладаў не хочацца. Абяцаць малочныя рэкі з кісельнымі берагамі -- гэта старая дэмакратычная традыцыя. Адны падманваюць, другія хочуць, каб іх жорстка падманулі.

Паэт сказаў: "Всё на свете объективно. Оттого и жить противно". Вясновыя фантазіі Аляксандра Рыгоравіча практычна выветрыліся. На змену ім прыйшла суровая рэальнасць эканомікі, якая склейвае ласты і ўратаваць якую можна толькі пры дапамозе радыкальных эканамічных рэформаў, непапулярных эканамічных захадаў. Усе ведаюць, што за рэформы давядзецца плаціць дабрабытам людзей, і ў абяцанні кіраўніка дзяржавы, што жыццёвы ўзровень малааплатных не ўпадзе, паверылі, бадай, толькі тыя, хто бачыў, з якою шчырасцю гэта абяцалася.

Калі прэзідэнт прапанаваў сваю праграму неадкладных мераў па выхаду Беларусі з крызісу, усіх проста ўразіла багацце тых мэтаў і арыенціраў, за якія нашы дэмакраты гатовыя былі пайсці на ўкрыжыванне. Каб Аляксандра Рыгоравіча наогул не пераблыталі з Шушкевічам ці Пазьняком, ён вымушаны быў рабіць афіцыйны даклад на недзяржаўнай мове. Так усяго за тры месяцы з поля камуна-славянскай дэмагогіі, якое дае багаты плён пры зборы галасоў, анабасіс прывёў "народнага лідэра" на грады, дбайна ўробленыя апазіцыйнымі партыямі. Фінансавая стабілізацыя, уцягненне ў рынак фондаў зямлі, стымуляванне экспарту, крэдыты Міжнароднага Валютнага Фонду -- гэта ўжо не прастарэкванне аб Рублёвай Зоне і нават не журботная песенька "О бедном Союзе замолвите слово". Гэта рэальная дарога, па якой ідзе большасць нашых суседзяў.



Дэмакратам рана піць шампанскае з тае нагоды, што гусеніца ператварылася ў прыгожага матылька. БСДГ, БНФ па-ранейшаму застаюцца асноўнымі "ворагамі" прэзідэнта. Якіх толькі эпітэтаў і метафар, якога ваяўнічага пафасу не ўдастоіліся з вуснаў прэзідэнта "бесчинствующие националисты"!

"Неприкрытый национализм" -- нашы падручнікі для сярэдніх школ, падрыхтаваныя хутчэй і лепш, чым у Расіі. "Политический шабаш" -- святкаванне Дня Беларускай Вайсковай Славы. "...Некоторые хотят отгородить республику колючей проволкой" -- паганы сон, які прысніўся пасля вельмі шчодрае вячэры.

Найбольш цікава паводзіць сябе старая наменклатура. Учарашнія апалагеты Калектыўнай Бяспекі і лабісты Танных Крэдытаў сёння гатовыя прагаласаваць хоць за доларавую зону і анексію Смаленскай вобласці з Беластоцкім ваяводствам, каб стаць прадстаўнікамі прэзідэнта ў раёнах і абласцях.

І ўсё-такі, адкуль такая нелюбоў, як сказала б аўтарка эратычных раманаў, адкуль антаганістычныя супярэчнасці, як паставілі б пытанне верныя ленінцы? Прэзідэнт пры любым зручным выпадку спрабуе ўбрыкнуць дэмакратаў. Тыя ўжо пачалі "каціць бочку" на прэзідэнта. У рэшце рэшт не ў паўлаўскіх рэфлексах тут справа.

Што датычыць дэмакратаў, дык тут усё проста: мы не пры ўладзе, у апазіцыі, а прычына пасцябаць уладу заўсёды знойдзецца. Прэзідэнт жа вымушаны імітаваць сваё становішча ў палітычным цэнтры. У рэальных дзеяннях гэта не атрымліваецца. Рэальнасць прымушае шмат што рабіць паводле рэцэптаў БСДГ і БНФ. Дык хоць адно задавальненне застаецца: аблаяць дэмакратаў. Адсюль і спробы зрабіць з апазіцыі экстрэмістаў-бамбістаў, русафобаў-змоўшчыкаў і наогул найміт аў пуэртарыканскага капіталу.

Яшчэ больш пікантная сітуацыя ўзнікае ў сувязі са спадчынай, якую пакінуў урад Кебіча ва ўзаемаадносінах з Расіяй. Цэны на энерганосьбіты дараўналі сусветным, а плату за транзіт не бярэм. Не бярэм і за ваенныя базы Расіі на нашай тэрыторыі. Паводле ацэнак расійскага друку, пастой расійскіх жаўнёраў на тэрыторыі нашай краіны павінен каштаваць 1,9 млрд. долараў. Даўгі перад усходняй суседкай растуць, кабальныя для Беларусі пагадненні дзейнічаюць. Каб расплаціцца з Расіяй, трэба павышаць цэны, заморжваць зарплату або высмоктваць грошы з пальцаў. Але гэтых грошай можа не хапіць, і тады магчымыя халодныя батарэі, спыненне заводаў. Нам ужо абяцалі гарачую ваду тры дні на тыдзень.

Расія плаціць нам не збіраецца. Лінг, Мяснікові́ч, Заламай і Даніленка, якія перакінуліся са старой каманды і прыклалі руку для забеспячэння неакаланіяльнага стану нашай краіны, ціхенька памоўкваюць. Вернападданага закліку: "Лукашэнкаўцы! Нашаму прэзідэнту паказалі кукіш! Памрэм усе як адзін!" -- у прэзідэнцкай камандзе пакуль што не чуваць. Але сёння ўжо ясна становіцца: канфлікт з Расіяй немінучы. Прэзідэнт-дэмакрат пачаў бы змаганне за справядлівасць ужо сёння. Лукашэнка, хутчэй за ўсё, пачакае да вясны: пакуль "бесчинствующие националисты" не раскачаюць народ, падрыхтуюць грамадскую думку. Вось тады і давядзецца трошкі пасварыцца са "старэйшым братам", а тое, што даўгі вырастуць яшчэ на паўмільярда долараў, што давядзецца практычна за нішто прадаць акціянернаму таварыству "Газпром" нашы магістральныя трубаправоды, -- гэта не бяда. І наогул, някепска было б, каб дэмакраты выйгралі на парламенцкіх выбарах увесну. Тады яны з уласнай ініцыятывы дэнансавалі б грабежніцкія пагадненні. Інакш з такою прапановаю ў Вярхоўным Савеце давядзецца выступаць Аляксандру Рыгоравічу. Зноў будзе анабасіс.



# Ці хутка надыйдуць Каляды, альбо Калі ж сонца паварочвае на лета

Набліжаецца дзень 25 сьнежня, які ў нашым беларускім календары пазначаны як Каляды, і пасля гэтага ў дужках -- каталіцкая канфэсыя. І далей, праз трынаццаць дзён, калі на нашым календары будзе стаяць дзень 7 студзеня 1995 году, мы зноўку ўбачым Каляды, але на гэты раз у дужках будзе адзначана праваслаўная канфэсыя.

Дык ці ёсьць розьніца паміж гэтымі дзьвюма сьвятамі? Як так здарылася, што йіх два, а не адно ці ня тры? На чым палягае глыбінная сутнасьць розьніцы паміж гэтымі дзьвюма сьвятамі: у наяўнасьці дзьвюх хрысьціянскіх канфэсыяў ці ў нечым іньшым?

Пытаньні, пытаньні, пытаньні...

Я думаю, што сёньня, напярэдадні калядаў, самы час задаць іх сабе ды паспрабаваць адшукаць адказы на йіх.

Пачнем з апошняга пытаньня. На першы погляд, правільным адказам будзе: "Так, у наяўнасьці на Беларусі дзьвюх канфэсыяў: каталіцкае ды праваслаўнае". Ды ў якасьці доказу прывесьці той самы каляндар, дзе розьніца паміж гэтымі сьвятамі як раз і пазначана як канфэсыйная. Але гэта будзе няправільным адказам. Сапраўды, на Беларусі ня дзьве, а, прынамсі, тры буйныя хрысьціянскія канфэсыі: каталікі, праваслаўныя ды пратэстанты. У сваю чаргу кожная зь іх падзяляецца на большую ці меньшую колькасць розных плыняў ды адгалінаваньняў. І калі б справа палягала толькі ў наяўнасьці розных канфэсыяў, дык мы мусілі б сьвяткаваць Каляды прынамсі тройчы, бо пры роўных стаўленьнях да ўсіх хрысьціянаў мы мусілі б прызначыць яшчэ мінімум адзін дзень для сьвяткаваньня Калядаў паводле аднаго з пратэстанцкіх абрадаў. Але на гэта можна запярэчыць тое, што пратэстанты зьявіліся ў Эўропе ды на Беларусі ў XYI ст. як вынік разьвіцьця каталіцызму й таму прынялі ад яго й дзень сьвяткаваньня Калядаў. Гэта будзе слушнай заўвагай, але слушнай толькі часткова. Справа ў тым, што ў нас ёсьць пратэстанцкія плыні, баптысты, напрыклад, якія сьвяткуюць Каляды разам з праваслаўнымі. У той жа час у некаторых дзяржавах у сьвеце праваслаўныя вернікі сьвяткуюць Каляды разам з каталікамі. Такім чынам, з усяго гэтага можна зрабіць выснову, што справа не ў наяўнасьці розных хрысьціянскіх плыняў.

На пытаньне, чаму гэтых сьвятаў два, а ня тры ці болей, трэба таксама адказаць пытаньнем: "А чаму йіх два, а не адно?" Сапраўды, калі падумаць пра сутнасьць таго, што мы сьвяткуем, дык другое пытаньне робіцца больш натуральным. Сьвяткуем жа мы ў гэтыя дні дзень нараджэньня Ісуса Хрыста. Таму атрымліваецца, што ў Сына Божага нібыта два дні нараджэньня, ці ён нараджаўся двойчы: адзін раз для каталікоў ды пратэстантаў (ня ўсіх) і другі раз для праваслаўных (ня ўсіх). Хай прабачыць мяне Бог за гэтую ерась, але з таго, што мы сёньня маем, быццам бы гэтак і ёсьць. Але ж кожнаму хрысьціяніну вядома, што гэта ня так. Нідзе ў Бібліі не напісана пра два дні нараджэньня Ісуса Хрыста, ніводная з хрысьціянскіх канфэсыяў не сьцьвярджае, што Сын Божы нараджаўся двойчы. Такім чынам, мы мусім сьвяткаваць адзін дзень яго нараджэньня, а ня два ці болей. Гэта вынікае з лёгікі рэчаў, са здаровага сэнсу здаровых людзей. Але рэальнасьць чамусьці з гэтым сэнсам не супадае й не дае адказу на тое, чаму ж гэтых сьвятаў два.

Вернемся цяпер у думках на некалькі стагодьдзяў назад. На пачатку хрысьціянства не існавала ніякіх падзелаў на канфэсыі, й Нараджэньне Хрыстова ўсе хрысьціяне сьвету сьвяткавалі ў адзін дзень, гэтак жа, як у адзін дзень яны сьвяткавалі й Вялікдзень (Уваскрэсяньне Хрыстовае). Дарэчы, апошняе сьвята, як кожнаму з нас вядома, было прымеркаванае да дня вясновага сонцазвароту, г.зн. дня, калі ўвесну дзень роўны ночы. І ў тыя часы гэты дзень, як і сёньня, прыпадаў на 21 сакавіка. Але, нягледзячы на такое супадзеньне, паміж тымі часамі і сёньняшнімі існуе істотнае адрозьненьне. І палягае яно вось на чым. Чалавецтва ўвесь час разьвіваецца. На зьмену старым прыладам прыходзяць новыя, больш дасканалыя, больш прыстасаваныя да новых умоваў жыцьця. Гэта датычыць усяго, пачынаючы ад нашых уя4леньняў пра Сусьвет і сканчаючы прыладамі, з дапамогаю якіх мы гэты Сусьвет асэнсоўваем і "спрабуем зьмяняць". Адным з гэтых уяўленьняў ёсьць Час, і адной з гэтых прыладаў ёсьць гадзіньнік, які дапамагае нам вымяраць і арыэнтавацца ў Чаве. Натуральная рэч, што галоўным патрабаваньнем да кожнага гадзіньніка ёсьць яго дакладнасьць: чым больш дакладна ён вымярае прамежкі часу, тым больш ён для нас прыдатны. Але, безумоўна, кожная дакладнасьць мае сваю мяжу, і мяжа гэтая залежыць ад нашых тэхнічных магчымасьцяў. Тое, што было дакладным некалькі стагодзьдзяў таму, сёньня можа такім і ня быць. Гэтак і здарылася з адным са спосабаў вымярэньня Часу, а менавіта з календаром. Яшчэ ў старажытнасьці людзі заўважылі, што йіх календары недакладныя. У некаторых народаў яны сьпяшаліся, у некаторых, наадварот, адставалі. Не выключэньнем быў і каляндар, якім карысталіся ў старажытныя часы народы Эўропы, у прыватнасьці народы Рымскае Імпэрыі, у межах якое й нарадзілася хрысьціянства.

У тыя далёкія дні, калі нарадзіўся Ісус, на абшарах Рымскае Імпэрыі быў прыняты гэтак званы юліянскі каляндар. Гэтую назву ён атрымаў ад імя Юлія Цэзара, які ў 46 г. да н.х. правёў рэформу, пасьля якое працягласьць каляндарнага году была прынятая ў 365 1/4 содняў, ды загадаў тры каляндарныя гады лічыць па 365 содняў, а чацьверты -- вісакосны -- па 366. Гэты каляндар існаваў даволі працяглы тэрмін (больш чым паўтары тысячы гадоў) і быў дзейным у 325 г., калі ў Нікэі быў скліканы першы Сусьветны хрысьціянскі сабор. На гэтым саборы, у прыватнасьці, паводле юліянскага календару, былі прызначаныя ўсе хрысьціянскія сьвяты. Пры гэтым надыход сьвята Вялікадня трэба было разьлічваць паводля першага вясновага маладзіка. Пачаткам жа вясны быў прыняты дзень 21 сакавіка, бо менавіта на яго ў 325 г. прыпадаў дзень вясновага соцазвароту. Але празь некалькі дзесвяцігодзьдзяў вясновы сонцазварот ссунуўся на 20, пасьля на 19 сакавіка, і гэтая розьніца працягвала павялічвацца такім чынам, што вясновае сьвята Вялікадня ўсё далей адыходзіла ад пачатку вясны. У XYI ст. дзень вясновага сонцазвароту прыпадаў ужо на 11 сакавіка, г.зн. на 10 дзён спазьняўся да таго дня, паводле якога разьлічвалі надыход Вялікадня. Гэта прыводзіла да сур'ёзных нязручнасьцяў як у штодзённым жыцьці, гэтак і ў жыцьці самое царквы.

А справа была вось у чым. Паводле юліянскага календару, год доўжыўся ў сярэднім 365 1/4 содняў, у той час як сонечны год (перыяд аднаго звароту Зямлі вакол Сонца) доўжыцца 365 содняў 5 гадзінаў 48 хвілінаў 46 і некалькі дзясятых сэкундаў, г.зн. карацейшы за каляндарны год на 11 хвілінаў й 14 з дзясятымі далямі сэкундаў, ці прыкладна на 1/128 частку содняў. З такіх штогадовых недакладнасьцяў за 128 год зьбіраліся ўжо лішнія содні. Такім чынам, каляндар паказваў, напрыклад, 20 сакавіка, калі на справе было ўжо 21 й сонца паварочвала на лета. Праз 128 год каляндар спазьняўся яшчэ на содні, пасля яшчэ і яшчэ. І вось напрыканцы XYI ст. галава рымакаталіцкае царквы папеж Рыгор XIII стварыў адмысловую камісію, якая мусіла выправіць каляндар такім чынам, каб дзень вясновага сонцазвароту вярнуўся на 21 сакавіка і ў будучыні заўсёды супадаў менавіта з гэтым лікам. Выправіць недакладнасьць, што назьбіралася да таго часу, было няцяжка: трэба было прапусьціць у каляндарным ліку 10 дзён. Але як рабіць далей? У юбіянскім календары лішнія содні зьбіраюцца за 128 гадоў, г.зн. прыкладна трое содняў за 400 гадоў. Такім чынам, трэба прапусьціць за 400 гадоў гэтыя тры дні. Дзеля гэтага ў 1582 годзе папеж Рыгор XIII, зыходзячы з парадаў каляндарнае камісіі, загадаў пасьля 4 кастрычніка лічыць ня 5-га, а адразу 15 кастрычніка, і надалей не лічыць вісакосныя тыя "сотыя", што сканчаюцца на два нулі гады, лічбы якіх ня дзеляцца нацэла на 400. Паводле гэтага календару, як і паводле юліянскага, 1600 ды 2000 гады лічацца вісакоснымі, у той час як гады 1700, 1800, 1900 і 2100-ы, у адрозьненьне ад юліянскага, вісакоснымі не зьяўляюцца, бо йіх лічбы ня дзеляцца нацэла на 400. Такім чынам, за 400 гадоў пазбаўляюцца трох "лішніх" содняў. Новы каляндар, у гонар папежа Рыгора XIII, быў названы рыгарыянскім. Працягласьць рыгарыянскага календару адрозьніваецца ад працягласьці сонечнага году не на 11 хвілінаў 14 сэкундаў, як у юліянскага, а толькі на 26 сэкундаў. Гэтая недакладнасьць ператворыцца ў лішнія содні толькі ў 4905 годзе, г.зн. у пяцідзясятым стагодзьдзі. Для практычнага карыстаньня большая дакладнасьць наўрад ці патрэбная.

Раней за йіншых рыгарыянскі каляндар, ці "новы стыль", бы4 прыняты ў эўрапейскіх дзяржавах, найперш у Італіі, Гішпаніі ды Францыі. Далей чарга дайшла й да Беларусі. У гэты ж час расейская праваслаўная царква патэгарычна адмовілася прыняць новы каляндар і працягвала карыстацца недакладным юліянскім календаром. У 1918 годзе ў Расеі быў усё ж такі ўведзены рыгарыянскі, ці "новы стыль", але праваслаўная царква па-ранейшаму працягвае карыстацца "старым стылем". Такім чынам, калі ў 325 г. для ўсіх хрысьціянаў былі ўсталяваныя даты агульнахрысьціянскіх сьвятаў (падзелу на каталіцызм ды праваслаўе тады яшчэ не існавала), Каляды прыпадалі на 25 сьнежня, г.зн. на дзень зімовага сонцазвароту, калі сонца паварочвае на вясну, дзень пачынае прыбываць. Пасьля ўводу ў 1582 годзе "новага стылю" недакладнасьці "старога" былі выпраўленыя, й 25 сьнежня зноўку супала з днём зімовага сонцазвароту. У гэты ж час, паводле "старога стылю", дзень 25 сьнежня спазьняецца, і ад 325 й гэтае спазьненьне складае трынаццаць дзён. Таму, калі паводле "старога стылю" на календары значыцца 25 сьнежня й тоэба спраўляць Каляды, на самай справе ўжо надыйшло 7 студзеня й Каляды даўно прайшлі. Тое ж самае адбываецца й з Новым годам і зь іншымі сьвятамі, калі на "старым" календары значыцца 1 студзеня, дык на больш дакладным "новым" стаіць ужо 13 студзеня.

З усяго сказанага вышэй вынікае, што на самай справе няма ніякае розьніцы паміж каталіцкімі ды праваслаўнымі Калядамі, бо й першыя, й другія сьвяткуюцца ў адзін і той жа дзень, а менавіта 25 сьнежня, але першыя адзначаюцца паводле ўдакладненага рыгарыянскага календару, у той час як другія --паводле недакладнага юліянскага. Больш таго, гэтая недакладнасьць у XXII стагодзьдзі складзе 14 дзён і зь цягам часу будзе ўсё больш і больш павялічвацца. Да таго ж, у штодзённым жыцьці ніхто з нас не карыстаецца юліянскім календаром. Пра гэта сьведчыць хоць бы той факт, што ўсе мы адзначаем Новы год 1 студзеня, у адпаведнасьці з рыгарыянскім календаром, роўна праз тыдзень пасьля 25 сьнежня, г.зн. Калядаў.

Улічваючы тое, што для нас, беларусаў, ніколі не было характэрным чапляцца за старое, што мы заўсёды былі нацыяй, якая вельмі хутка ўспрымала ўсё новае й лепшае, прыстасоўваючы гэта для ўласных патрэбаў, нам і сёньтня ня трэба здраджваць сваім традыцыям і пераймаць не ўласьцівы нам стыль паводзінаў ды "стары стыль". хай "старым стылем" карыстаецца хто хоча, але ня мы. Ня будзем ствараць падвойных стандартаў ды падвойных сьвятаў, тым больш што для нас, беларусаў, у гэтым няма ніякае патрэбы.

Віншую Вас з надыходзячымі Калядамі!

Віншую Вас з надыходзячым Новым годам!

**Аляксей ДАЙНЭКА, малодшы навуковы супрацоўнік АН Беларусі**



## Счастливого вам Рождества!

Если спросить любого человека, какой праздник он любит больше всего на свете, то каждый второй скажет, что, конечно, Новый год. Так уж нас приучили, ведь, по соображениям прежних идеологов, у советского народа и праздники должны быть только советские. А выпивать первый бокал шампанского рекомендовалось только под поздравительные речи главы партии и государства. С натяжкой, но этот праздник еще кое-как подходил под установленные в рамках закона. Конечно, не очередная годовщина Великого Октября, но все же... Рождество же как таковое оставлялось для верующих бабушек.

И тут мы узнали, что, оказывается, весь цивилизованный мир предпочитает праздновать именно Рождество. И праздник этот любим и почитаем как взрослыми, так и детьми, а готовиться к нему начинают аж за месяц.

Честно говоря, о Рождестве и о том, как его все-таки надо праздновать, я сама знаю очень мало, разве что по мыльному сериалу "Санта-Барбара". Интересно, а что думают по поводу этого праздника и отмечают ли его остальные -- те, кто имеет честь проживать на территории, неофициально именуемой "ворота в Европу"? Задавшись этим вопросом, я решила провести небольшое исследование.

*Сергей КОРСАК, учитель информатики:*

-- Никогда в моей семье об этом празднике даже и не упоминали. Новый год -- это другое дело. приходили гости, пили шампанское, смотрели телевизор. Из года в год все одно и то же. Хотелось бы большего праздника, но как-то не получается. Все тот же телевизор и скука. Так и сидишь всю ночь. А что еще делать?

*Ольга ТЕРПИЛОВСКАЯ, студентка нархоза:*

-- Я рада, что появился такой праздник, как Рождество. Но что это за праздник и как его отмечать -- никто не знает. Если бы побольше рассказывали о нем, что надо делать, какие есть традиции. А так -- Рождество и Рождество. Только одни разговоры.

*Евгений Васильевич ЛЕНОВСКИЙ, пенсионер:*

-- Это еще один повод собраться с семьей, но при такой дороговизне продуктов основное застолье все равно намечаешь на 31 декабря. Как-то привыкли уже, что ли. Может быть, мои внуки лучше будут отмечать этот праздник, а я уж по-старинке.

*Дмитрий КОВАЛЕВИЧ, студент:*

-- Этот праздник в нашей семье отмечали всегда. А традиция такая началась, когда родители жили в Германии. За четыре недели в рождественский венок вставляли четыре свечи. Каждую неделю сжигали по одной свече. А потом уж был сам праздник. Блюда тоже специальные готовили. Обязательно -- рождественский гусь, пирог. И еще -- не просто застолье, а возможность поговорить по душам, как-то духовно очиститься, мысленно перебрать все свои грехи и постараться в следующем году не повторять их. Кстати, и подарки я получал всегда на Рождество. Теперь в Беларуси мы этой традиции продолжаем придерживаться.

*Елена МАКАРЕВИЧ, менеджер по рекламе:*

-- Моя мама ходит в костел, приносит оттуда освященную кутью. На стол обязательно кладут сено -- под белую скатерть. Сено выбрасывать нельзя, а обязательно надо скормить животным. Все пробуют кутью, желают друг другу счастья, поздравляют. Хороший праздник и очень любимый нами.

*Дмитрий КРАСНОВ, школьник:*

-- А что это за праздник? Я такого не знаю...

*Виталий ЛОСЕВ, бизнесмен:*

-- В прошлом году как-то решили отметить Рождество. Даже погадали для смеху. А так получилась самая обычная пьянка. Вряд ли наши души очистились после такого празднества. Не умеем мы отмечать этот праздник, и, наверное, уже у нас ничего не получится. Так уж мы воспитаны.

Как видим, все новое -- хорошо забытое старое. А традиции свои мы действительно подзабыли. И ждем, пока нас как следует не просветят, не ткнут пальцем, что вот он, праздник, отмечайте, пока чувство стадности не сработает. В общем, счастливого вам Рождества!

**Ольга МАХОНИНА, для "БМ"**

## Liebschaft -- гэта палюбоўная сувязь

Вельмі доўгі час я спрабавала неяк вылічыць, што ж можа сабраць такі разнашэрсны па ўзросце і, відавочна, па мастацкіх прыхільнасцях натоўп людзей (кшталту таго, які літаральна "паваліў" у Мінскі Палац мастацтва 9 снежня)? Адзіны прымальны і дастаткова "гнуткі" адказ -- гэта палюбоўная сувязь (альбо "Liebschaft") з мастацтвам. Прынамсі, менавіта так і называецца фестываль, пра які пойдзе наша гаворка.

Безумоўна, кожны мае права разумець гэты самы "Liebschaft" па-свойму: нехта адразу пачынае шукаць непасрэднага знаёмства з аўтарамі, нехта проста блукае сярод незразумелых "экспанатаў", быццам бы толькі што выцягнутых са звалкі, і час ад часу пытаецца ў суседзяў: "Вы не падкажаце, што яны хацелі гэтым сказаць?.."

"Падказаць" ці пераказаць тут штосьці вельмі цяжка. Таму ад усялякіх спробаў зрабіць гэта я адразу адмаўляюся. Па-першае, заўсёды знойдзецца сотня-другая людзей, якія ўспрынялі ўсё гэта, як кажуць, "кардынальна супрацьлегла". Па-другое, такія творы трэба вывучаць у адмыслова створаных для іх інтэр'ерах. Па-трэцяе, закрыццё фестывалю адбудзецца толькі 3 студзеня, адпаведна час для "Liebschaft" знайсці можна.

Вельмі часта сустракаецца такое ўстойлівае словазлучэнне, як "шакіраваць публіку". Але "шок" -- даволі спецыфічнае слова, супраць якога маюць поўнае права выступіць прадстаўнікі гэтай самай "публікі". (Асабліва калі публіка такая вопытная і спакушаная, як гэта было 9 снежня...) Тым не менш лёгкае "аслупяненне" было абсалютна нармальнай рэакцыяй на першыя хвіліны адкрыцця. (Яно адбылося амаль што ў поўнай цемры, пад ваяўнічыя гукі "тамтамаў" гурта "Беларускі клімат").

На некаторы час нават магло падацца, што ўсё гэта адбываецца не на нашай мінскай, даволі балоцістай, глебе, а ў якім-небудзь больш звыклым для гэтага месцы...

Але, як заўсёды, своечасова пачалася непазбежная афіцыйная частка, якая і вярнула ўсіх "на зямлю".

Шчыра кажучы, мяне здзівіў спіс арганізатараў і спонсараў фестывалю, сярод якіх аказаліся такія сур'ёзныя ўстановы, як Саюз мастакоў Беларусі і ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама. Праўда, здавалася, што для іх усё гэта было, так бы мовіць, "неспадзяванкай" (прыемнай ці не -- не ведаю).

Затое самі ўдзельнікі "Liebschaft", многія з якіх, як высветлілася, яшчэ з'яўляюцца студэнтамі Акадэміі мастацтваў, відасочна атрымлівалі асалоду ад свайго ўласнага (сабе ж прысвечанага) свята. Спрабавалі камусьці даць інтрэв'ю, фатаграфаваліся на памяць... Дарэчы, пад знакам "Liebschaft", акрамя беларускіх, сабраліся мастакі з Польшчы і Швейцарыі, дапоўніўшы чыста прафесійнае братанне інтэрнацыянальным...

Як зазначыў адзін выкладчык Акадэміі мастацтваў, маладзёжных выстаў зараз вельмі многа, але ўсе яны нейкія раз'яднаныя... Таму гэта -- першая падзея такога памеру, якая, безумоўна, будзе мець свае наступствы. Хаця б у тым сэнсе, што ўжо зараз відавочна стала з'яўленне новых лідэраў у гэтай сферы.

І для нас, на мой погляд, пакуль што не так важна, што адбываецца. І не трэба імкнуцца як мага хутчэй "паставіць на месца" і раскрытыкаваць нявопытных хлопчыкаў, якія раптам апынуліся ў цэнтры ўвагі.

Куды важней зараз трымацца за кожную магчымасць спіхнуць самім сябе з мёртвай кропкі. (І, пакуль ёсць такая магчымасць, --сродкамі "Liebschaft").

**Вольга БАБАК, "БМ"**

